Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 27 Вільня, Нядзеля, 25-га ліпня 1926 г. Год I.

## „Палітычная раўнавага".

Як мы ўжо адзначалі ў папярэднім нумары, Сойм ня зусім апраўдаў ускладаную на яго п. Пілсудскім надзею: навет пад пагрозай бізуна паслы не згадзіліся зьлiквiдавацца й законным парадкам замацаваць дыктатуру выканаўчае ўлады — прэзыдэнта і ўраду. Права прэзыдэнта выдаваць законы шляхам дэкрэту — адкiнена Соймам. Не прайшло і права прэзыдэнцкага „veto" — права, якое давала-бы прэзыдэнту магчымасьць не дапусьціць да правядзеньня ў жыцьцё ніводнага няўгоднага яму закону, прынятага Соймам. Не прайшлі і зьмены выбарнага закону, і пазбаўленьне дэпутатаў нятыкальнасьці.

Прайшлі, аднак-жа, дзьве важныя зьмены ў істнуючым у Польшчы дзяржаўным ладзе. Першая — гэта пастанова Сойму, што прэзыдэнту *могуць быць даваны* часова і ў вызначаных Соймам межах паўнамоцтвы заканадаўчага характару. Такім парадкам, Сойм, адмовіўшыся надзяліць прэзыдэнта *сталым* правам *самастойна і незалежна ад заканадаўчых палат* выдаваць законы, дае яму гэтае-ж права на азначаны час і ў азначаных наперад межах, як *паўнамоцніку Сойму*. І паскольку да прыняцьця гэтага закону дзеля правядзеньня праз Сойм паўнамоцтваў прэзыдэнту, *не прадугледжаных Канстытуцыяй*, трэба было сабраць за гэта $^2/_3$ галасоў прысутных дэпутатаў, — дык *цяпер* паўнамоцтвы будуць праводзіцца проста й лёгка — *звычайнай большасьцяй*. — Другая зробленая Соймам зьмена — гэта права прэзыдэнта сваей воляй *распускаць Сойм і Сэнат*, якія дагэтуль маглі быць распушчаны толькі на падставе іх уласнае пастановы.

Хаця ўлада прэзыдэнта і ўраду гэткім парадкам вельмі значна ўзрасла аднак-жа выканаўчая ўлада усё-ж пастараму астаецца *залежнай ад Сойму*, і ўрад п. п. Бартля-Пілсудскага будзе прымушаны й далей у найважнейшых справах зварачацца да Сойму. Такім парадкам, апляваўшы і зьзесціўшы Сойм, п. Пілсудскі будзе змушаны *супрацоўнічаць далей з гэтым-жа Соймам*, каторы ён ужо выкарыстаў дзеля правядзеньня сваіх рэакцыйных законаў.

Гэтак — побач з „сацыяльнай раўнавагай", якую бараніць узяўся п. Пілсудскі, — у Польшчы ўстанаўліваецца і „*палітычная раўнавага*" выканаўчае і заканадаўчае ўлады, абапертая не на аднабокай залежнасьці ўраду ад Сойму, як было дагэтуль, а на ўзаемнай іх залежнасьці аднаго ад аднаго: бо-ж і ўрад праз прэзыдэнта можа распусьціць Сойм да канца яго ных мандатаў.

Як адаб'ецца гэтая падвойная „раўнавага" на працоўных масах Польшчы, на сялянах і работніках, на нацыянальных меншасьцях? Адказ на гэтае пытаньне невясёлы: найлепш паказуе на гэта факт, што за паўнамоцтвы для ўраду п. п. Бартля-Пілсудскага галасавала ўся правіца Сойму, усе абшарнікі й капіталісты, якія за ахову „сацыяльнае раўнавагі" згадзіліся на ўстанаўленьне „палітычнае раўнавагі". Але йшчэ больш красамоўнымі зьяўляюцца факты нашага штодзеннага жыцьця: на вёсцы палажэньне сялянства ня толькі не палепшала, а, хутчэй, пагоршылася; у местах выступленьні работнікаў канчаюцца таксама, як канчаліся за панаваньня найчарнейшае рэакцыі... І калі ад „сацыяльнае раўнавагі" працоўнаму народу ўжо дыхаць было нельга, дык пры „палітычнай" — кажучы славамі п. Вітоса — „będzie gorzej": калі б прадстаўніком буржуазіі трудна было правадзіць у *будучых* Соймах свае пляны, скіраваныя проці працоўных, — дык заўсёды падтрымае іх урад „сацыяльнае раўнавагі" дзякуючы тэй уладзе, якой яго надзяліў *сучасны* Сойм.

**№ 26 „Белар. Справы" з 24 ліпня сканфіскаваны п. Камісарам Ураду на м. Вільню за перадрук з польскае часопісі „Sprawiedliwość" № 24/25 адозвы палітычных вязьняў да работнікаў.**

## У Польшчы.

### Цікавы „вывяд" з п. Стідам.

У Варшаву прыяжджаў галоўны рэдактар найбольш уплывовай англійскай газэты „Таймс", афіцыёзу англійскага ўраду, п. Стід, які мае ня менш значэньня ў палітычным жыцьці Англіі, чым кожын з міністраў габінэту Бальдвіна. Выяжджаючы з Варшавы, даў ён у афіцыяльным органе польскага мін. замежных спраў вельмі цікавы „вывяд".

П. Стід радзіў Польшчы жыць у **згодзе з Нямеччынай**, паскольку немцы ня будуць пхацца ізноў да панаваньня над Эўропай (кан..уруючы ў гэтым з Англіяй!). Тады Нямеччына пагодзіцца з істнаваньнем Польшчы — у сваім уласным інтарэсе. Лучыцца з М. Антантай ён ня радзіць Польшчы. Але радзіць, каб Польшча сама сталася цэнтрам аб'яднаньня... для іншых народаў (чытай: балтыцкіх)... Тады будзе яшчэ больш цэнным яе „паразуменьне з М. Антантай"... З візыты сваей у Польшчу п. Стід вывез уражаньне, што Польшча якраз і ідзе ў гэтым напрамку.

На запытаньне, ці Англія рада была-б з варожых адносінаў Польшчы з СССР, п. Стід, зразумела, адказаў адмоўна: барані Бог, Англія хоча ўсюды толькі міру!

Ці Англія была варожа настроена да Польшчы? — Ніколі: Англія толькі аднасілася да Польшчы з „пачуцьцём непакою" — (чытай: была напужана ўчасьцем работнікаў у пераවароце Пілсудскага ды пагрозай захопленьня імі ўлады!).

Выяжджае п. Стід з Польшчы з вялікімі надзеямі на разьвіцьцё Польшчы і сымпатыямі (чытай: калі буржуазная Польшча ўнутры акрэпне — ангельская буржуазія... ня будзе ўжо „больш баяцца"!).

---

Жыдоўская газэта „Мамэнт" даведалася, быццам супалка англійскіх банкаў мае запрапанаваць Польшчы купіць палову акцыяў Дзяржаўнага Польскага Банку, а таксама — памагчы атрымаць з Амэрыкі пазыку 200 мільёнаў даляраў. Ці дойдзе да ўсяго таго, аб чым кажуць ласкава англійцы, гэта — іншая справа; але, што яны непакояцца, каб не абыйшлося чаго у Польшчы бяз іх уплыву, дый гатовы на гэты ўплыў улажыць значныя грошы за добрыя процанты — гэта — ясна!

### Даўгі польскай дзяржавы.

Як паведамляе „Robotnik" (№ 192) 14 г. м. адбылося паседжаньне Камісіі дзеля кантролю даўгоў дзяржавы, на якім і быў зроблены гэтакі сьпісак:

1) унутраныя даўгі дзяржавы — 74 мільёны зл.;

2) заграні чныя: Амэрыцы — 233 мільёны даляраў, Францыі — 1 мільярд франкаў, Англіі — 4,880 фунтаў стэрлінгаў, Італіі — 465 мільёнаў лір, Галяндыі — 8.613 флёр, Нарвэгіі — 20.167 кар. і 1.448 фунтаў стэрлінгаў, Даніі — 426 тысяч кар. дацкіх, Швэцыі — 6.259, Швайцарыі 89 тысяч франкаў; паводлуг Інсбурскага дагавору аўстр. флёрынаў 66 мільёнаў і карон 22 мільёны;

3) даўгі ў білёне — 460 мільёнаў зл.;

4) акрамя таго дзяржава мае яшчэ шмат забавязаньняў перад гарадамі, таварыствамі і прыватнымі акцыянернымі кампаніямі, як у польскай, так і ў заграні чнай валюце.

Нас інтэрэсуюць толькі два пытаньні:

1) куды дзяржава гэтыя грошы падзела, бо ні мужык, ні рабочы іх ня бачыў?

2) хто будзе сплачываць усе гэтыя даўгі, калі фабрыканты й абшарнікі нат старых сваіх даўгоў не заплацілі, і ніхто ў іх не спаганяе?

### Жніўныя забастоўкі.

„Głos Lubelski" паведамляе, што ў люблінскім ваяводзтве пачаліся сельска гаспадарскія забастоўкі.

Пачалося з двара Годзішов (Яноўскага пав.), які належыць да палк. Бэліны-Пражмовскага. Сяляне патрэбавалі захаваньня платы, якая была ўстаноўлена пасьля леташняе забастоўкі, бо абшарнік шмат урэзаў аплату працы. Забастоўкай кіраваў саюз парабкоў.

Тое-ж было ў цэлым радзе двароў. Тры дні трывала забастоўка ў маёнтку Падаблоцьці, Гарволінскага пав., і закончылася перамогай работнікаў: трэбаваньні іх споўнены ўсе.

Упорлівае барацьбы спадзяюцца ў дв. Лускі, Сакалоўскага пав., дзе абшарнік лічыць дамаганьні работнікаў „цэразмернымі" і ня йдзе на ўступкі.

### 6.000 новых безработных.

„Rzeczpospolita" (№ 196) зьмяшчае гэтакую заметку:

„На мурох Жырардоўскіх валакняных фабрык 19 г. м. былі расклеены пасьля абеду паведамленьні аб звальненьні ад працы ўсіх работнікаў і чыноўнікаў ад 2/VIII—1926 г. Значыць, гэта ні больш, ні менш, як павялічэньне ліку безработных на новых 6 тысяч і спыненьне на невядомы час вялічэзнага варштату працы.

Як на прычыну гэтага кроку, — дырэкцыя і управа фабрыкі паказывае на нязгодлівасьць работніцкіх дэлегатаў на рэарганізацыю валакністага промыслу па прыкладу Лодзі.

Зьмест гэтай рэарганізацыі заключаецца ў тым, каб пабольшыць лік верацён, абслужываных адным работнікам, з 124 да 160, або інакш: каб работнік працаваў у адным і тым самым часе пры 3-4 варштатах, а ня пры двух, як было раней... Перагаворы між прадстаўнікамі ўправы фабрыкі і дэлегатамі работнікаў не давялі да нічога і ў мінулую пятніцу былі спынены".

### Забастоўка ў Езёрне.

Забастоўка трывае далей. Палажэньне надта напружанае.

### Невядомыя мсьціцелі.

20 г. м. ў Катовіцах былі кінены дзьве бомбы. Адна — на дом „Народных Каталіцкіх Таварыстваў", пры чым будынак зруйнаваны без ахвяр з людзьмі, а другая — на рэдакцыю газэты „Polonia" (органу капіталістаў). Тут выбуху ня было, бо паліцыя пасьпела зьняць павешаную на шнурку бомбу.

## Заграніцай.

### Непакоячыя рухі на польска-літоўскай граніцы.

„Dz. Wil." даведаўся, што з літоўскага боку на пагранічча з Польшчай пачаўся вялікі рух войск. Значныя сілы разьмешчаны ўздоўж граніцы — ад Шырвінт да Мусьнішак і Шумелішак. Усім шаўлісам (стральцам) выплачана дапамога на наймо батракоў, каб яны самі маглі быць у распараджэньні ўлады ў часе жніва.

З другога боку літоўскія газэты, як паведамляе ПАТ, пішуць, што Польшча прымае сьпешныя ваенныя меры. Спадзявацца ад Польшчы чаго добрага ня можна. Але раздьмухіваньне ваенных чутак спыняе творчую работу ў краі. Польшча ваяваць ня можа, дый вайна, выкліканая ёй, зараз-жа перотворыцца ў агульна-эўрапэйскую. Дык можа ўся суматоха — толькі манэўр Пілсудскага, каб падмацаваць вельмі ня моцныя стратэгічна „Крэсы", пішуць яны. Можа і так.

### Сьмерць Фэлікса Дзержынскага.

У аўторак 20/VII с. г. памёр нагла ў Маскве адзін з правадыроў старой польскай сацыял-дэмакратычнай партыі, а пасьля адзін з найбольш вядомых бальшавіцкіх дзеячоў.

„Надзвычайная Камісія для барацьбы з контрэвалюцыяй", абс каротка: Чэка — была пад яго загадам.

У 1920 г., у часе перамогі чырвонай арміі, — Дзержынскі ўвайходзіў у склад створанага ў Беластоку „Савецкага Ураду Польшчы". Памёр ён, маючы 49 гадоў.

### Забастоўка ангельскіх вуглякопаў.

Вуглякопы не здаюцца. Ваююць апошнімі сіламі. Канфэрэнцыя прэм'ера Бальдвіна з духоўнымі, якія ад страху перад завастрыўшайся да апошніх граніц барацьбой — раілі ўраду пайсьці на пэўныя ўступкі, — не дала ніякіх вынікаў. Біскупы адмовіліся ад далейшых спроб памірыць ваюючыя стораны.

Міністар унутраных спраў Англіі запрапана-

ваў арыштаваць правадыра забастоўкі Кука,— аднак рада міністраў не адважылася прыняць яе.

Палажэньне бастуючых рабочых пачынае рабіцца страшэнным. На ўсім сьвеце работніцкія арганізацыі зьбіраюць грошы, але гэта капля ў моры. Бяда і голад аслабляе гэроічных вуглякопаў.

У Вільні, акрамя істнуючага пры прафэсіянальных саюзах, мае заснавацца другі камітэт для помачы ангельскім вуглякопам.

### Ангельская буржуазія маніфэстуе.

У Лёндане адбыўся шматлюдны мітынг, на якім рад аратараў рэзка дамагаліся ад ураду, ня толькі рашучых мераў проці англійскіх камуністаў, але перадусім—проці „чырвонага золата“ ды радавай агітацыі сярод англійскіх работнікаў. Мітынг заклікаў урад парваць зносіны з радавым урадам, ці—амаль не да вайны з ССРР.

### Дзяржаўны крызіс у Францыі.

Нядаўна створаны новы францускі ўрад — дзесяты па ліку ўрад Брыяна быў змушаны падацца ў адстаўку — з прычыны таго, што парлямант высказаў яму недаверые.

Эрыо скляпаў узноў яшчэ адзін „новы“ ўрад. Аднак, на першым-жа паседжаньні парляманту яму было таксама выражана недаверые, і ён падаўся ў адстаўку!

### Англійская прэса аб упадку ўраду Брыяна-Кайо

Буржуазная англійская прэса вельмі занепакоена сталымі крызісамі ў Францыі, якія лічыць—агульна-эўрапэйскай бядой. Кожны ўпадак ураду выклікаў ды будзе выклікаць усё большы ўпадак францускага франка, што зьяўляецца небясьпекай для ўсяго кантынэнту, не выключаючы і Нямеччыны. Лібэральная прэса баіцца, што гэтыя сталыя крызісы могуць дарэшты скампрамітаваць дэмакратычны лад у Францыі ды выклікаць у ёй дыктатуру, якая ўжо пануе ўва ўсіх раманскіх краёх. Францыя за ўвесь час істнаваньня ў ёй рэспублікі ня была яшчэ ў гэткай грознай небясьпецы.

Ёсьць яшчэ і другая магчымасьць, аб якой англійская прэса маўчыць: гэта — сацыяльная рэвалюцыя.

### Францускія сацыялісты проці Лігі Народаў.

Француская сацыялістычная партыя забараніла сваім сябром прымаць учасьце ў працах Лігі Народаў. На падставе гэтай рэзалюцыі партыі паслы сацыялісты Поль, Бонкур і Рэнодэль выйшлі з складу францускай дэлегацыі ў Лізе.

### Сэнсацыйныя рэвэляцыі чэха-славацкага прэзыдэнта.

Асабісты прыяцель прэзыдэнта Масарыка доктар Гэрба зьмясьціў (—пэўне-ж з дазволу дый са слоў самога прэзыдэнта!) сэнсацыйныя рэвэляцыі аб тым націску, які рабілі на прэзыдэнта ваенна-фашыстаўскія элемэнты ў краі.—Чэха-славацкія „пілсудчыкі“ ці „галерчыкі“ націскалі на Масарыка, каб той—шляхам ваеннага перавароту — „вызваліўся ад парляманту“, дый пачаў „адраджаць маральна“ дзяржаўнае жыцьцё асабістай дыктатурай, ведама-ж, паставіўшы на вышэйшыя становішчы дый на цяплейшыя мейсцы — паноў дарадцаў... Найбольш цікаўны для нас тыя матывы, якія правадыры чэшскіх (ня чэха-славацкіх!) ваенных кругоў прыводзілі, даючы свае рады прэзыдэнту: яны казалі, што парлямант Чэха-Славакіі, на моцы дэмакратычнай канстытуцыі, перапоўнены паслам́і нацыянальных меншасьцяў, якія настроены „антыпаньствова“ (процідзяржаўна) ды тармазяць усю дзяржаўную працу ўраду... Дык пераварот першым чынам меў-бы даць „законнае панаваньне“ ў Чэхаславакіі „прыраджоным“ валадыром і гаспадаром краю—чэхам...

Усюды фашысты — правыя і левыя! — маюць адзін супольны язык!

### Англійска-кітайскае паразуменьне.

Англійцы спрытна выкарыстоўваюць хатнюю вайну ў Кітаі, якая выклікае ненавісьць да Японіі, каб дабіцца скасаваньня байкоту англійскіх тавараў у Кітаі. Яны склікалі спэцыяльную канфэрэнцыю ў Гонконгу ў гэтай справе.

## З жыцьця „Грамады“.

### Новыя арганізацыі.

У вёсцы **Квачы**, Ліпнішскае гм., Лідзкага пав., 27./VI. г. г. з'арганізаваны Квачынскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Калазубы**, Ражанскае гм., Косаўскага пав., 11./VII. г. г. з'арганізаваны Калазубаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работніцкай Грамады.

У вёсцы **Ялуцэвічы**, Пачапаўскае гм., Навагрудзкага пав., 13./VII. г. г. з'арганізаваны Ялуцэвіцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Моччы**, Гарадачанскае гм., Навагрудзкага пав., 15./VII. г. г. з'арганізаваны Маччанскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Какошчыцы**, Чамерскае гм., Слонімскага пав., 15./VII. г. г. з'арганізаваны Какошчыцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ.-Грамады.

У вёсцы **Мастытычах**, Гарадоцкае гм., Баранавіцкага пав., 19./VII. г. г. з'арганізаваны Мастытыцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Кацьмінаўцы**, Гарадоцкае гм., Баранавіцкага пав., 12./VII. г. г. з'арганізаваны Кацьмінаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Душкаўцы**, Гарадоцкае гм., Баранавіцкага пав., 11./VII. г. г. з'арганізаваны Душкавецкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Казловічы**, Пачапаўскае гм., Навагрудзкага пав., 12./VII. г. г. з'арганізаваны Казловіцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Заставе**, Белавежскае гм., Бельска-Падляскага пав., 12./VII. г. г. з'арганізаваўся Застаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

## Голас былага „вызваленца“.

(Пісьмо ў рэдакцыю).

Я, ніжэйпадпісаны сябра партыі „Wyzwolenie“ ад 1922 году, гэтым заяўляю, што выходжу з яе.

Партыя „Wyzwolenie“ ў часе выбараў у Сойм выдзялялася з усіх іншых сваей мужыцкай праграмай. Шмат хто з нас падтрымаў яе, бо верыў, што яна будзе бараніць інтэрэсы працуючых мас, так, як гэта абвяшчала. Сягодня многім зрабілася ўжо ясна, што „Wyzwolenie“, атрымаўшы нашае даверые, здрадзіла нас, перакінулася ў другі лагер, прадаўшы за срэбнікі і сябе і нас. „Wyzwolenie“ памагло панам ня даць сялянам зямлі; „Wyzwolenie“ паддзержывала буржуазны ўрад, які наслаў нам асаднікаў, ліцытуе вёску па падаткі, садзіць па турмах і г. д.

Я пераканаўся, што сяляне ня могуць мець нічога супольнага з гэтай партыяй, і дзеля таго выходжу з яе.

Нам трэба быць больш асьцярожнымі, бо балючую навуку дало нам „Wyzwolenie“ і іншыя згодніцкія партыі. Каб мы іх не падтрымалі, каб ня далі сябе ашукаць,— адваявалі-бы ўжо мы сабе шмат чаго.

У нас ёсьць партыя, якая цьвёрда і бескарысна змагаецца за паляпшэньне жыцьця і вызваленьне працуючага народу. Гэта—Бел. Сял.-Раб. Грамада. Уступаю сам у яе і клічу ўсіх сваіх старых таварышаў, сяброў партыі „Wyzwolenie“, якім дорага справа сялян і работнікаў: зрабеце тое самае!

Няхай жыве Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада!

**Навум Станкевіч.**

У вёсцы **Дзернякавы**, Гарадоцкае гм., Беластоцкага пав., 9./VII. з'арганізаваны Дзернякаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Церабостыні**, Жухавіцкае гм., Стаўпецкага пав., 12./VII. г. г. з'арганізаваны Церабостыньскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Лаўрыновічы**, Лыскаўскае гм., Ваўкавыскага пав., 4./VII. г. г. з'арганізаваны Лаўрыновіцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Тросчыцы**, Жухавіцкае гм., Стаўпецкага пав., 11./VII. г. г. з'арганізаваны Тросчыцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Кожаве**, Жухавіцкае гм., Стаўпецкага пав. 18./VII. г. г. з'арганізаваны Кожаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы **Малыя-Жухавічы**, Жухавіцкае гм., Стаўпецкага пав., 18./VII. г. г. з'арганізаваны Мала-Жухавіцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

**Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

## Натуральная павіннасьць.

### Новыя дарогі.

Аб будове новых дарог абавязвае гэтакі закон:

| | |
|---|---|
| Dz. Ust. № 6 Poz. 32. | Дз. У. № 6, паз. 32. |
| **Art. 4.** Budowa nowej drogi, przenoszenie całej drogi, jej odcinków lub mostów z jednej kategorji do drugiej, jakoteż zaniechanie drogi następuje na mocy: 1) uchwały sejmowej, co do dróg państwowych; 2) uchwały wojewódzkiego związku samorządowego, co do dróg wojewódzkich; 3) uchwały powiatowego związku samorządowego, co do dróg powiatowych; 4) uchwały rady gminnej, zatwierdzonej przez wydział powiatowy, co do dróg gminnych. | **§ 4.** Будова новай дарогі, перанос усяе дарогі, яе частак, або мастоў з аднае катэгорыі да другой, або закіданьне дарогі наступае на моцы: 1) пастановы Сойму — для дзяржаўных дарог; 2) пастановы ваяводзкага самаўраду—для ваяводзкіх дарог; 3) пастановы павятовага самаўраду — для дарог павятовых; 4) пастановы гміннай рады, зацьвержанай павятовым соймікам (Wydział Powiatowy), — для гмінных дарог. |
| Postanowienia te nie odnoszą się do częściowego zaniechania drogi w celu ulepszenia trasy drogi. | Пастановы гэтыя не датычацца частковага закіданьня дарогі з мэтай паляпшэньня кірунку дарогі. |
| **Art. 5.** Grunty, stale lub czasowo potrzebne do budowy i utrzymania dróg, wraz ze znajdującemi się na nich budowlami, oraz matarjały, niezbędne do budowy i utrzmania dróg, mogą być nabyte w drodze wywłaszcenia względnie casowo zajęte. | **§ 5.** Грунты, стала або часова патрэбныя дзеля будовы і ўтрыманьня дарог, разам з будынкамі на іх, а таксама матэр'ялы, неабходныя дзеля будовы і ўтрыманьня дарогі, могуць быць набыты шляхам прымусовага выкупу, ці-то заняты часова. |
| Orzeczenie o potrzebie, przedmiocie i rozciągłości wywłaszczenia względnie czasowego zajęcia, zawierające także określenie wysokości wynagrodzenia za przedmiot wywłaszczany, na podstawie oszacowania niezainteresowanych rzeczoznawców, wydać ma właściwa władza administacyjna drygiej instancji. | Пастанову аб патрэбе, прадмеце і межах прымусовага выкупу, або часовага заняцьця, разам з азначэньнем разьмеру платы за выкупляны прадмет на падставе ацэнкі незацікаўленых экспэртаў —мае выдаць адміністрацыйная ўлада другой інстанцыі. |
| Strona zainteresow., która czuje się pokrzywdzoną wynagrodzeniem, oznaczonem przez władzę administracyjną w orzeczeniu wywłaszczającem, może w terminie 30-dniowym do dnia doręczenia orzeczenia udać się do właściwego sądu o oznaczenie wysokości wynagrodzenia w drodze postępowania sądowego. Orzeczenie wywłaszczające nadaje jednak zarządowi drogi prawo objęcia w posiadanie przedmiotu wywłaszczonego, jeżeli złoży do depozytu sądowego wynagrodzenie, oznaczone w orzeczeniu władzy administracyjnej. | Зацікаўленая старана, якая пачувае сябе пакрыўджанай платай, азначанай адміністрацыйнай уладай у пастанове аб выкупе, можа ў тэрміне 30 дзён ад дня даручэньня пастановы зьвярнуцца да адпаведнага суда, каб вызначылі плату судовым парадкам. Пастанова аб прымусовым выкупе дае, аднак, права ўправе дарогі карыстацца выкупленым прадметам, калі паложыць у судовы дэпозыт плату, азначаную ў пастанове адміністрацыйнай улады. |
| **Art. 6.** W razie potrzeby preprowadzenia pomiarów do budowy dróg i mostów na gruntach prywatnych odnośne zarządy drogowe mają otrzymać od władz administracyjnych pierwszej instancji upoważnenie do wykonania tych prac na gruntach prywatnych za wynagrodzeniem istotnych szkód, wyrządzonych w czasie wykonywania pomiarów. | **§ 6.** Калі трэба зрабіць памеры дзеля будовы дарог і мастоў на прыватных землях, адпаведныя дарожныя ўправы маюць атрымаць ад адміністрацыйнай улады першай інстанцыі паўнамоцтва на выкананьне гэтай работы на прыватных землях з аплатаю за зробленыя ў часе мераньня шкоды. |

### Надужыцьці й барацьба з імі.

Кожын год **павятовы соймік** укладае **плян работ**, дзеля выпаўненьня якіх мяйсцовае насяленьне будзе паклікана адбываць натуральную павіннасьць. **Раскладку-ж** павіннасьці робяць **гміны**, і сельская адміністрацыя дае загад кожнаму жыхару вёскі ды наглядае над выпаўненьнем работы. У працягу 14 дзён ад даручэньня загаду аб закліку на работу, у гміне-ж трэба праверыць норму раскладкі і пратэставаць, калі зроблена няправільна. Калі-ж прапусьціцца гэны 14-дзённы тэрмін, дык раскладка, хоць-бы й няправільная, мае законную сілу і трэ работу зрабіць.

Ведаючы цяпер усе тыя законы, на падставе каторых вас клічуць адбываць натуральныя павіннасьці, вы маеце магчымасьць змагацца з тымі нялічанымі крыўдамі пры раскладцы прымусовых работ, на якія так часта жаліцца вёска. Раз укладаньне пляну дарожных і мастовых работ адбываецца пры ўчасьці вашых прадстаўнікоў у сойміку; раз пры іх-жа ўчасьці так-жа і ў гміне робіцца раскладка работ на вёскі й паасобных жыхараў; раз гэтыя-ж прадстаўнікі сялянства маўчліва згаджаюцца на тое, каб будаваць за грамадзкія грошы масты, разьлічаныя на праезд аўтамабіляў, але з такім пад'ездам, якога ня здолее асіліць сялянскі конік, — дык на гэтых іменна прадстаўнікоў і выбранцаў сваіх вы й павінны **рабіць належны націск.** Склічце сход, патрэбуйце справаздачы аб іх дзеяльнасьці ў гмінных радах і павятовых сойміках; дайце ім рашучы наказ уважліва аднасіцца да працы тых устаноў, куды вы іх паслалі; загадайце, каб пры вырашэньні усіх дарожных і мастовых пытаньняў на засяданьнях сойміку і гміннае рады, трэбавалі заўсёды ў прысутнага тэхнічнага прадстаўніка высьненьня мэт і прычын кожнае работы! Калі вашы прадстаўнікі адкажуць вам, што яны выпаўняюць толькі загады старасты ці войта, — дык яны нягодныя даверыя грамады, і патрэбуйце ад іх, каб зракліся сваіх мандатаў. А не паслухаюцца вас,— напішыце матываваны прыгавор аб адкліканьні

